Упраўленне адукацыі
Магілеўскага аблвыканкама
Установа адукацыі
“Цэнтр пазашкольнай работы”

# Да родных вытокаў-
# сцяжынкамі дзяцінства

( з вопыту работы Школы развіцця “Прыступачкі”)

XIV Рэспубліканская выстава
“Грамадзянска –патрыятычнае
выхаванне: вопыт і перспектывы”

Рэкамендавана да друку метадычным саветам УА “ЦПР” упраўлення адукацыі Магілеўскага аблвыканкама. Пратакол № ад лютага 2011.

**Аутары–складальнікі:** В.В. Аўсейкава, І.М. Бекер, С.А. Байкова, І.П.Васількова, І.Р. Грыгор’ева.

Да родных вытокаў – сцяжынкамі дзяцінства : з вопыту работы Школы развіцця “Прыступачкі”/ пад агульнай рэдакцыяй Г.Д.Альховік – Магілёў, УА “Цэнтр пазашкольнай работы”, 2011.

У выданні “Да родных вытокаў – сцяжынкамі дзяцінства” апісаны формы работы з дзецьмі дашкольнага ўзросту па фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці. Матэрыял мае практычную накіраванасць і адрасаваны метадыстам, культарганізатарам, кіраўнікам кружкоў пазашкольных устаноў.



ШКОЛА РАЗВІЦЦЯ “ПРЫСТУПАЧКІ”

гуляем | вучымся | расцем



**Дзень добры, жвавая сцяжынка!**
**Па ёй і хлопчык, і дзяучынка**
**Бягуць у край цудоўны ведаў,**
**Каб у жыцці было менш бедаў!**




Сцяжынкі,бягуць сцяжынкі…Шмат на свеце сцяжынак.
Якія яны розныя: пясчаныя, камяністыя, шырокія, вузкія, кароткія, доўгія.
Але,як бы мы не шукалі, нідзе няма лёгкіх жыццёвых сцяжынак.

Так і ў чалавека.Нарадзілася дзіцятка, з’явілася новая сцяжынка.Ад калыскі пабяжыць яна далёка-далёка за небасхіл.Шмат чаго ўбачыць дзіця на сваёй сцяжынцы, шмат новых ведаў пазнае яно.

Бягуць сцяжынкі дзяцінства па роднаму краю кудысьці ўдалячынь, праз лясы і лугі, вёскі і гарады. Крочаць па гэтых сцяжынках хлапчукі ды дзяўчынкі, сустракаюць прыгожых працавітых людзей, чуюць гукі матчынай мовы, дыхаюць водарам роднай зямелькі. І дзе б ні апынуліся нашы дзеткі на гэтай доўгай сцяжынцы жыцця, з імі назаўсёды застаецца тая непаўторная цеплыня ўражанняў і ўспамінаў аб самых прыгожых куточках дзяцінства, якім яны не здрадзяць ніколі.

Мы, педагогі Школы развіцця “Прыступачкі”, любім сваю прафесію, дзяцей, родную мову.На занятках мы вучым здзіўляцца і захапляцца, задумвацца і разважаць, шукаць адгадкі і знаходзіць іх. Паступовa дзеці адкрываюць для сябе таямніцы ведаў, вучацца бачыць прыгажосць наваколля, адчуваць мілагучнасць родных спеваў, набываць першыя навыкі эстэтычнага ўспрыняцця рэчаіснасці.

Нацыянальнае самаўсведамленне дзіцяці фарміруецца паступова. І чым раней пачынаецца мэтанакіраваная работа ў гэтым напрамку, тым большага плёну можна чакаць ад яе. Вялікі выхаваўчы патэнцыял захаваны ў творах вуснай народнай творчасці, народных святах і абрадах.

Асноўнымі формамі работы ў Школе развіцця “Прыступачкі” па фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці і патрыятычных пачуццяў з’яуляюцца заняткі, святы, экскурсіі і работа з бацькамі.

Мы пераасэнсовываем нацыянальныя традыцыі, каб яны адпавядалі сучаснай рэчаіснасці і вызывалі ў дзяцей жаданне звяртацца да сваіх вытокаў, з якіх фарміруецца падмурак нацыянальнага самаўсведамлення асобы.



Слухаем і размаўляем

# Слухаем і размаўляем



Словы родныя люблю я.
Вершаў ведаю багата.
Гукі мовы беларускай
Пахнуць верасам і мятай.



На занятках  важная роля належыць роднаму слову. Яно ўзбагачае дзіцячую мову праз чытанне казак, вершаў, выкарыстанне прыказак і прымавак.
Галоўнае - захоўваць дзетак, паказаць, што мова - жывая, а слова - ласкавае, пяшчотнае. Заняткі праводзяцца як заняткі-забавы, заняткі –казкі, заняткі-падарожжы.

Спяваем і танцуем

# Спяваем і танцуем



Малаточкі заскакалі,
А цымбалы заспявалі.
Струны срэбрам звіняць,
З чым іх спеў параўнаць?



Музычная фальклорная спадчына - неад’емная частка грамадства, таму ў Школе развіцця на музычных занятках беларускі фальклор прадстаўлены рознымі жанрамі – забаўлянкамі, небыліцамі, скорагаворкамі, іграрвымі песнямі, ігрой на музычных інструментах, а таксама сучаснымі творамі беларускіх кампазітараў. На дзіцячых святах дзеці спяваюць песні на роднай мове, выконваюць танцы з элементамі беларускай полькі, крыжачка, карагода.

# Малюем і ствараем

Малюем і ствараем



Разглядаеш ты малюнкі -
Не нагледзешся ніяк:
Цуда-кветкі, як карункі
І пытаеш:”Хто ж мастак?”
Дзеткі, ножанкі і талент
Нам стваралі гэты цуд.
Беларускі наш арнамент
Ажывае казкай тут.



Мастацкае выхаванне ажыццяўляецца праз знаёмства дзяцей з вырабамі народных майстроў з тканымі рушнікамі і посцілкамі, вырабамі з гліны, дрэва, саломы, з асаблівасцямі беларускага арнаменту.

Атрыманыя ўражанні выхаванцы адлюстроўваюць у малюнках і апплікацыях з выкарыстаннем прыроднага матэрыялу.

Ужыванне фальклора дае магчымасць дакрануцца да гістарычных традыцый і каштоўнасцей беларускага народа, адчуць свае духоўныя карані.

# Гартаем і чытаем

Гартаем і чытаем



На паліцы многа кніг,
То ж  Айчыны нашай мова,
Мова прадзедаў,бацькоў.
У той мове што ні слова -
Дыямент жывы вякоў.



Наша бібліятэка з'яўляецца асяродкам нацыянальнай культуры. Выхаванцы Школы развіцця с задавальненнем знаёмяцца з дзіцячымі часопісамі і выданнямі.

Тэматычныя экспазіцыі аб родным крае, родным горадзе, родных мясцінах, знакамітых дзеячах культуры і мастацтва, пісьменніках і паэтах, прыцягваюць увагу дзяцей, напоўняючы сэрцы павагай і гонарам за сваю Айчыну.

# Назіраем і знаёмімся

Назіраем і знаёмімся



Да цябе прыбеглі гуртам мы,
У цябе пытаемся, у зімы:
Ты куды падзела кветкі і муры,
Ты куды схавала дзеразу і мох,
Ты чаму заснежыла поле і лясы,
Дзе багун і папараць, верасы?
- Ах, мае вы смешныя! Так, как вы,
Не кранала кветак я і травы,
Не зрывала папараць і багун:
Я ўсё ад холаду берагу.



Будынак Цэнтра пазашкольнай работы знаходзіцца ў вельмі прыгожай частцы Магілёва: побач рэчка і невялічкі парк. Сюды вельмі добра прывесці дзяцей, каб паказаць прыгожы куточак роднай прыроды, расказаць ім шмат цікавага аб насельніках гэтай мясціны: якія расліны тут можна сустрэць на сцяжынках, якія прадстаўнікі жывёльнага свету знаходзяць тут свой прытулак. Гэта дае магчымасць фарміраваць у дзяцей пачуццё любві да роднай прыроды, беражлівыя адносіны да яе.

У розныя поры года тут можна ўбачыць шмат цікавага і прыгожага. Можна атрымаць такія ўражанні, якія застануцца ў сэрцах дзяцей назаўсёды.

Гукі мовы і гукі прыроды чуюць дзеці, калі разам з педагогам выходзяць на экскурсіі.

Менавіта ў такія хвіліны дзеці адчуваюць сябе маленькімі грамадзянамі сваёй краіны, сэрцамі дакранаючыся да ўсяго таго,  што завецца Айчынай.

Цікавімся і пазнаем

# Цікавімся і пазнаем



Адкрываю цябе, Беларусь,
Пранікаю ў твае таямніцы.
Чую з радасцю, як у душы
Тваё светлае імя струіцца.



Нашы музеі – невычарпальная скарбонка культуры і ведаў для нашых дзяцей. Наведванне этнаграфічнага і краязнаўчага музеяў дае магчымасць дзецям дакрануцца да гісторыі паўсядзённых рэчаў беларусаў: адзення, прылад працы, традыцыйных рамёстваў.

Так нашы выхаванцы далучаюцца да таго вечнага і мудрага, што пакінута нам нашымі продкамі.

# Крочым разам

Крочым разам



Сыночку маленькі, ты ручку мне дай,
Цябе павяду я у нязведаны край,
Мы пойдзем вузкай мяжою ўдваіх,
Так мякка, прыгожа, пахуча…аж рай!
Сыночку маленькі, ты ручку мне дай…

Далучэнне дзяцей да вытокаў народнай культуры, вывучэнне роднай мовы немагчыма без паслядоўнай работы з бацькамі. Толькі тады, калі бацькі будуць зацікаўлены ў тым, каб іх дзіця ведала сваю родную мову, намаганні педагогаў не знікнуць дарма.

**Выкарастаная літаратура**:


1. Аберган, В.П.,Лявонава, А.К., Арлова, Т.У.,Каліноўская,М.А. Народная спадчына – дашкольнікам - Мн.: НМЦэнтр, 1998. -152с.
2. Бесова, М.А., Старовойтова, Т.А. Воспитываем патриотов -2-е изд.- Мозырь:ООО ИД Белый Ветер, 2008.-135с.
3. Гаруновіч,Л.Б., Бессаб Дз. Крыніцы жывапісу: пра мастакоў і мастацтва -Мн.: Зорны верасень, 2006.-60с.
4. Дубініна, Дз.М. Родныя вобразы ў паэтычным слове -2-е выд.- Мазыр: ТАА ВД Белы Вецер.2009.- 136,108 с.
5. Мініна, В.В. Мой родны кут- частка 2- Мазыр : ТААА ВД Белы Вецер, 2007.-155 с.
6. Дубровская, Л.В. Маленькие граждане большой страны: программа патриотического воспитания детей дошкольного возраста Спадчына - 3-е изд. Мозырь: Содействие, 2010. - 220 с.
7. Дубініна, Дз.М., Дубинина Дз.Ул. Культура Беларусі ў казках і паданнях: этнакультурная адукацыя дашкольникаў- Мн.: Зорны верасень, 2008.-120 с.
8. Красіла, А.І. Праз літаратурную спадчыну-да авалодання Роднай мовай -Мазыр: ТАА ВД Белы Вецер, 2002.-72с.
9. Краскоўская, Г.І. І слова гучала, чароўнае слова…-Мн.: УП Тэнапрынт, 2005.-64с.






Дарог на свеце вельмі
многа,
А ты між іх сваю
знайдзі!
Няхай нялёгкая
дарога.
А ты ідзі,
А ты ідзі….










Мы - тройчы дзеці ў вечным
крузе:
Мы - дзеці роднае сям'і,
І - дзеці Маці-Беларусі,
І - дзеці Матухны-Зямлі.